Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№9 (774) 14 студзеня 1994 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 598207 экз. Кошт у розніцу — 50 руб.

## ФАКС

### Наша бульба до Москвы не доведет

**Как известно, российская столица практически отказалась от белорусского сливочного масла и мяса.**

Впервые за многие годы обходится она также без нашей картошки и овощей. Сравнительно недорогую сельхозпродукцию белокаменной поставляют теперь восемнадцать российских регионов.

Видно, отдельным нашим аграриям остается только торговать возле Белорусского вокзала с рук и ручных колясок, а вот сельскохозяйственному ведомству доведется искать рынки сбыта в других регионах.

**Ирина ГАРАНИНА.**

### Лучше быть богатым и здоровым. Но как?

**В оргкомитете по проведению акции протеста профсоюзов промышленности Беларуси "Нет — обнищанию народа!" сообщили, что участие в ней приняли 9 промышленных профсоюзов.**

На 151 предприятии республики 12 января с 10 до 11 часов была остановлена работа и проведены общезаводские митинги и собрания, на которых приняты резолюции. Основными требованиями являются: досрочные перевыборы Верховного Совета, отставка Совмина, замораживание цен на хлеб, молочные продукты, коммунальные услуги к 1 июля 1994 года, изменение социально-экономической политики в республике.

### Дни костоломные

**Ни сна, ни отдыха не знают в эти на диво скользкие дни медики травмопункта витебской горбольницы N 3, где обычно сходятся все "обезноженные" и "обезрученные".**

Таковых ежедневно оказывается теперь около 200 человек — вчетверо больше, чем было в это время в прошлые годы. С ледяным покровом улиц и тротуаров не успевает справиться городская спецавтобаза, хотя каждая из ее шести снегоуборочных машин накручивает за смену до 50 километров.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

### Бог в помощь, ксендзы!

**За основательное изучение белорусского языка взялись ксендзы Гомельской католической каплицы.**

Два раза в неделю занятия для них ведет заведующий кафедрой белорусской культуры Гомельского университета, доцент Дмитрий Павловец.

Богослужение в каплице теперь ведется на белорусском языке.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Аукцион из-под полы

**В Кличеве по инициативе местных властей проведен аукцион... припрятанных товаров.**

В районном Доме культуры, где он проходил, продавались кофемолки, соковыжималки и другие товары домашнего обихода, которые обнаружили сотрудники отдела по борьбе с экономической преступностью РОВД в местном магазине "Техника в быту". Как сообщил заместитель председателя райисполкома Станислав Титяк, подобные "выставки" в районе будут, по-видимому, практиковаться и в дальнейшем.

**Николай КОМЛЕВ.**

### Спорт-экспресс

В первенстве МХЛ хоккеисты минского хоккейного клуба "Тивали" у себя дома выиграли у омского "Авангарда" — 5:1 (2:0, 2:0, 1:1).

❑

Гандболисты сборной Беларуси проиграли в гостях матч отборочного турнира чемпионата Европы сборной Хорватии — 24:27. Теперь наша команда, судя по всему, примет участие в борьбе за четыре дополнительные путевки в европейский финал.

### Вкратце

**В Минске состоялось очередное заседание республиканской комиссии по подготовке к празднованию 50-летия освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков.**

Заместитель Председателя Совета Министров Михаил Демчук ознакомил присутствующих с правительственным постановлением о юбилейных мероприятиях и мерах по его выполнению.

❑

**Конкретное воплощение получил договор между правительствами Республики Беларусь и Японии по сотрудничеству в области ликвидации результатов аварии в Чернобыле.**

Временный поверенный в делах Японии в Беларуси Акиро Татеяма вручил Республиканскому диагностическому центру комплект оборудования.

❑

**Вышел в свет первый номер ежедневника "Новая земля".**

Его учредителем стал Белорусский союз фермеров.

❑

**Иван Коротченя находился в КНР с 6 по 13 января по приглашению неправительственной китайской ассоциации народной дипломатии, в которую входят видные государственные деятели этой страны.**

Он информировал своих собеседников о результатах состоявшейся в конце прошлого года встречи глав государств Содружества в Ашгабате, где Россия взяла на себя ответственность в ближайшие полгода за судьбу СНГ.

❑

**В Литве начались траурные мероприятия, посвященные событиям 13 января 1991 года в Вильнюсе.**

Распоряжением правительства Литвы 12 января с 14 часов по местному времени до 22 часов 13 января у административных зданий учреждений, фабрик и жилых домов на территории всей республики были вывешены государственные флаги с траурной лентой.

❑

**Председатель правительства Виктор Черномырдин намерен в следующий понедельник объявить персональный состав реформируемого согласно указу президента России от 10 января Совета Министров Российской Федерации.**

❑

**Пакистан закрыл границу с Афганистаном в связи с сильным наплывом беженцев из Кабула, количество которых за неполные две недели нового года превысило 17 тысяч человек.**

❑

**На торгах Московской межбанковской валютной биржи 13 января курс рубля вновь резко упал по отношению к доллару и составил 1356 рублей за один доллар.**

Накануне за "зеленый" давали 1335 рублей.

### Гамсахурдиа: в моей смерти прошу винить Россию

**"Осознав свое положение и моральное состояние грузинской нации, я решил добровольно уйти из жизни для консолидации грузин, абхазов, аджарцев и других народов Грузии", — говорится в предсмертном завещании З.Гамсахурдиа.**

"Я исчерпал все законные, демократические пути возвращения к власти. Россия способствовала моей кончине, и тебе воздастся сторицей за твои несправедливые дела. Ты так же виновна в моей смерти, как и мои соотечественники", — подчеркивается в завещании.

### Даешь "Парламентский час"!

**Пока в российском высшем законодательном органе два дня продолжалась процедура выборов руководящего состава обеих палат, в некоторых фракциях Госдумы, сформированных Аграрной, Либерально-демократической и Коммунистической партиями России, заранее подготовлены вопросы повестки дня ближайших заседаний.**

Одним из первоочередных вносится предложение обсудить возможность о немедленном возобновлении выхода в эфир телепередачи "Парламентский час", закрытой в свое время указом президента Б.Ельцина.

Эти же фракции намерены вернуть и "Российской газете" ее прежний статус — парламентской газеты.

**Леонид ГЕРАСИМОВ.**

### Курсы валют в обменных пунктах банков Минска

**13 декабря**

| | Покупка | Продажа | Чековая книжка |
|---|---|---|---|
| **"Сбербанк",** городское управление | | | |
| доллар США | 4365 | 4425 | 4370 |
| немецкая марка | 2515 | 2605 | 2600 |
| российский рубль | 2,9 | 3,15 | 2,9 |
| **"Белвнешэкономбанк":** | | | |
| доллар США | - | 4450 | - |
| немецкая марка | - | 2563 | - |
| российский рубль | - | 3,7 | - |
| **"Комплекс":** | | | |
| доллар США | 4350 | 4600 | 4785 |
| немецкая марка | 2505 | 2650 | 2775 |
| российский рубль | 2,9 | 3,15 | - |
| **"Дукат":** | | | |
| доллар США | 4300 | 4600 | - |
| немецкая марка | 2400 | 2700 | - |
| российский рубль | - | - | - |
| **"Северо-Запад"** курсы не устанавливал | | | |
| **"Автомазбанк":** | | | |
| доллар США | 4400 | 4600 | - |
| немецкая марка | 2530 | 2640 | - |
| российский рубль | - | - | - |
| **"Приорбанк":** | | | |
| доллар США | 4200 | 4600 | 4600 |
| немецкая марка | 2400 | 2650 | 2640 |
| российский рубль | 2 | - | 2,2 |
| **"Белбизнесбанк",** городская дирекция: | | | |
| доллар США | 4000 | 4700 | - |
| немецкая марка | 2300 | 2700 | - |
| российский рубль | - | - | - |
| **"Академбанк":** | | | |
| доллар США | 4250 | 4650 | - |
| немецкая марка | 2350 | 2650 | - |
| российский рубль | - | 3,6 | 3,8 |
| **"Белпромстройбанк":** | | | |
| доллар США | 4300 | 4900 | 4600 |
| немецкая марка | 2480 | 2800 | 2700 |
| российский рубль | 3,0 | 3,5 | - |
| **"Поиск":** | | | |
| доллар США | 4200 | 4400 | - |
| немецкая марка | 2350 | 2450 | - |
| российский рубль | - | 4 | - |
| **"Профбанк":** | | | |
| доллар США | 4200 | 4465 | 4400 |
| немецкая марка | 2390 | 2500 | 2475 |
| российский рубль | 2,75 | 2,95 | - |

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН.**

## Да візіту прэзідэнта ЗША Біла Клінтана

15 студзеня ў Рэспубліку Беларусь з афіцыйным візітам прыбывае прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Біл (Уільям Джэферсан) Клінтан.

Біл Клінтан — 42-і прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі, прыняў прысягу 20 студзеня 1993 года.

У 1976 годзе ён быў выбраны генеральным пракурорам штата Арканзас. Праз два гады стаў губернатарам гэтага штата і перавыбіраўся чатыры разы. Толькі адзін губернатар у гісторыі гэтага штата заставаўся на сваёй пасадзе больш працяглы час, чым Клінтан.

Прэзідэнт Клінтан узначаліў нацыянальную асацыяцыю губернатараў, камісію па ўтварэнню штатаў, камісію па развіццю вусця Місісіпі, камісію па развіццю Поўдня, асацыяцыю губернатараў-дэмакратаў і савет дэмакратычнага кіраўніцтва.

Прэзідэнт Клінтан — арканзасец у пятым пакаленні. Ён нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў горадзе Хоуп. Праз два гады яго сям'я пераехала ў Хот-Спрынгс, дзе ён закончыў сярэднюю школу.

У 1968 годзе Біл Клінтан атрымаў ступень бакалаўра ў Джарджтаўнскім універсітэце, а ў 1973 годзе - дыплом юрыста ў Йельскім універсітэце. З 1968 па 1970-ы Біл Клінтан — стыпендыят Родса ў Оксфардзе. З 1981 па 1982-і прэзідэнт Клінтан займаўся прыватнай юрыдычнай практыкай у горадзе Літл-Рок і выкладаў права ў Арканзаскім універсітэце ў Фаетвіле.

Прэзідэнт жанаты на Хілары Родэм Клінтан. У іх ёсць дачка Чэлсі. Біл Клінтан любіць чытаць. Ён бегае трушком і гуляе ў гольф. Іншы раз іграе на саксафоне.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь—Белінфарм.**



*Дыпламатычны кур'ер*

## У Беларусі чакаюць амерыканскага прэзідэнта

"Візіт у рэспубліку прэзідэнта ЗША мае не толькі велізарнае палітычнае і эканамічнае значэнне, але з'яўляецца важным яшчэ і ў маральным сэнсе," — такую ацэнку прыезду ў Беларусь высокага госця даў міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка на праведзенай у МЗС рэспублікі прэс-канферэнцыі.

Паводле слоў кіраўніка знешнепалітычнага ведамства, візіт уяўляе сабой прарыў інфармацыйнага вакууму, які аб'ектыўна існаваў у сувязі з тым, што Беларусь не з'яўлялася асобнай суверэннай дзяржавай. І менавіта гэты візіт дапаможа набыць рэспубліцы сваё аблічча на міжнароднай арэне. Хоць, як заявіў П.Краўчанка, наведванне амерыканскім прэзідэнтам Беларусі не выпадковае. Гэта прызнанне карэктнага, лагічнага і ўзважанага знешнепалітычнага курсу рэспублікі.

Міністр адзначыў, што ў ходзе перагавораў будуць закрануты некаторыя аспекты пытанняў кампенсацыі Беларусі за ядзернае раззбраенне. Гэты візіт, на яго думку, дасць таксама новы імпульс развіццю двухбаковых дагаворных адносін паміж дзвюма дзяржавамі. Не выключана, што ў бліжэйшы час пасля візіту будзе падпісаны шэраг пагадненняў, сярод якіх — аб ільготным рэжыме інвесціравання і абароне інвестыцый, аб супрацоўніцтве ў галіне навукі. Будуць таксама ўрэгуляваны некаторыя банкаўскія справы і іншыя праблемы.

Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Дэвід Х.Суорц, які выступіў на гэтай жа прэс-канферэнцыі, таксама адзначыў, што акрамя перагавораў са спікерам беларускага парламента Станіславам Шушкевічам і прэм'ерам Вячаславам Кебічам прэзідэнт Амерыкі мае намер наведаць Курапаты, месца пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій, і сустрэцца з лідэрам дэмакратычнай апазіцыі Зянонам Пазьняком. Гэта, паводле слоў пасла, дасць уяўленне аб самым шырокім спектры палітычных думак у новай незалежнай дзяржаве.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, Белінфарм.**

*г.Мінск.*

## Праграма для прэзідэнцкай сям'і

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма з канфідэнцыяльных крыніц, падрыхтавана праграма знаходжання ў Беларусі прэзідэнта ЗША Біла Клінтана.

Высокі госць прыляціць у Мінск у суботу. На аэрадроме плануецца ўрачыстая цырымонія сустрэчы прэзідэнта ЗША, якая зойме каля паўгадзіны. Затым амерыканская дэлегацыя накіруецца ў Курапаты, на месца пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Бліжэй да поўдня чакаецца гутарка Станіслава Шушкевіча з Білам Клінтанам. Затым прэзідэнт ЗША будзе гутарыць і з кіраўніком урада Вячаславам Кебічам. Наступнымі субяседнікамі высокага госця стануць прадстаўнікі дэпутацкага корпуса Беларусі.

Пасля гэтага Біл Клінтан, а таксама Станіслаў Шушкевіч і Вячаслаў Кебіч ускладуць вянкі да помніка-абеліска на плошчы Перамогі.

Прыкладна 15-мінутнае выступленне прэзідэнта ЗША чакаецца ў Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

З аэрапорта, дзе высокі госць сустрэнецца з супрацоўнікамі пасольства ЗША ў Мінску, ён адбывае ў Жэневу.

Вечарам чакаецца прэс-канферэнцыя Станіслава Шушкевіча. Біла Клінтана на ёй ужо, вядома, не будзе. Аднак, ёсць звесткі, што амерыканскі бок рыхтуецца правесці прэс-канферэнцыю ў гасцініцы "Планета", дзе будуць размяшчацца замежныя карэспандэнты.

Вядома, гэта папярэдняя праграма, у якой, не выключана, могуць быць змены. Карэспандэнту Белінфарма, напрыклад, вядома, што ў беларускага боку ёсць пэўныя прапановы па змяненню парадку праграмы візіту.

Прадугледжана, што жонка прэзідэнта ЗША Хілары Клінтан наведае адну з дзіцячых бальніц Мінска, а таксама тэатр оперы і балета, а іх дачка Чэлсі пабывае ў мінскім харэаграфічным вучылішчы.

**Белінфарм.**

## Партнерство во имя мира или в обмен на мир?

**Олег ГРУЗДИЛОВИЧ, обозреватель "Народной газеты"**

Чрезвычайный интерес к поездке президента США Билла Клинтона по Европе, закономерный сам по себе, подогревается двумя обстоятельствами: "украинским фактором", неожиданно изменившим и без того оригинальный маршрут визита и серьезно повлиявшим на его содержание, плюс "русским вопросом", который, после триумфа партии Жириновского на выборах в России, опять стал темой номер один в Старом Свете. С первым уже все более-менее ясно. Уязвленный тем, что Билл Клинтон поначалу не собирался залетать в Киев, а демонстративно предпочел ему Минск, Леонид Кравчук постарался перетянуть одеяло на себя и немало в этом преуспел. Зато "русский вопрос" пока без прояснений. Сумеет ли Клинтон убедить Ельцина в эффективности для Европы и безопасности для России своей инициативы под заглавием "Партнерство ради мира"? Будет ли Ельцин столь же покладист, как и североатлантические союзники Клинтона и тем более его восточноевропейские кандидаты в союзники? Скорее всего перевес в этом обмене мнений будет на стороне американского президента. Заметим, что визиту Клинтона в Европу не случайно предшествовала довольно напряженная дискуссия о перспективах НАТО как в США, так и в Старом Свете, да и по ходу турне из различных заинтересованных сторон сыпались противоречивые заявления, на которые нужно было оперативно реагировать. Для ясности напомним краткую хронику событий.

❑ "Нашей политике потребовались уточнения, — заявляет накануне визита заместитель госсекретаря США Стоуб Тэлбот. — Мы сделали небольшую передышку, чтобы изучить результаты выборов 12 декабря и обрести уверенность, что мы понимаем их правильно".

❑ Генеральный секретарь Совета Европы Катрин Лалюмьер высказывается против системы безопасности в Европе, из которой была бы исключена Россия.

❑ Президент Украины Леонид Кравчук явно в пику позиции России заявляет, что Украина "не возрожала бы против принятия Литвы в НАТО".

❑ 10 января на сессии Совета НАТО подписывается документ "Партнерство во имя мира", предлагающий восточноевропейским странам широкое сотрудничество с североатлантическим альянсом. Выступая на пресс-конференции в Брюсселе, Билл Клинтон заявляет, что решение Украины убрать размещенные на ее территории ядерное оружие усиливает безопасность США, Украины, России и любой другой страны, и оценивает его как обнадеживающий исторический прорыв.

❑ 12 января в Праге Клинтон встречается с лидерами "вышеградской" четверки — Чехии, Польши, Венгрии и Словакии, заручаясь их поддержкой плана "Партнерства", встреченного тем не менее, как подчеркивают обозреватели, без бурного энтузиазма.

❑ В ночь на 13 января в киевском аэропорту Борисполь проходит консультативная встреча между Леонидом Кравчуком и Биллом Клинтоном.

❑ 13 января в Москве открываются российско-американские переговоры на высшем уровне.

Наконец, сегодня, 14 января, в соответствии с планом визита должны состоятся трехсторонние переговоры с участием президента Украины и подписан договор о ее ядерном разоружении, как явствует из предварительной информации, на довольно выгодных условиях. Одним словом, в Минск президент Клинтон отправится, уже имея высокий балл за весьма удачно проведенное турне. А на встрече с представителями общественности в Академии наук, которая, несмотря на уплотнение программы, наверняка состоится, помимо заготовленной речи мы, возможно, услышим свежие импровизации на тему новой партнерской Европы с учетом выясненной в Москве позиции России. В принципе, роль "пропагандиста" итогов визита в Европу, которая достанется в этом случае Беларуси, весьма почетна сама по себе. Однако и собственно белорусская часть выглядит весьма солидно, поскольку включает в себя не только встречи с высшими официальными лицами республики и с ее интеллектуальной элитой, заключение важных соглашений, но и беседу с лидером оппозиции Зеноном Позняком.

*Пра што гаварылася на прэс-канферэнцыі?*

## ... Давесці справу да поўнага вырашэння няпроста

**Мікалай ГАЛКО**

У адрозненне ад некаторых іншых прэс-канферэнцый арганізатары гэтай не ставілі перад сабой мэту з'явіцца перад журналістамі ў абліччы новаспечаных збавіцеляў нацыі. Наадварот, і Старшыня Вярхоўнага Савета і старшыня Нацыянальнага банка засяроджвалі ўвагу на нявырашаным, на цяжкім. Магчыма, у гэтым сэнсе Станіслаў Шушкевіч, Станіслаў Багданкевіч і Уладзімір Заламай нешта гублялі як палітыкі ў вачах слухачоў і гледачоў. Але не ўсё тое золата, што палітыка.

Сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета з прэзідэнтам Расіі ў Маскве атрымалася насычанай надзвычайна важкімі пытаннямі, сярод якіх на першым плане — аб'яднанне грашовых сістэм.

Станіслаў Шушкевіч падкрэсліў, што заявіць аб намеры і давесці справу да поўнага вырашэння няпроста. Пасля сустрэчы з Барысам Ельцыным ёсць падставы меркаваць, што на працягу студзеня справа лагічна завершыцца. Па меншай меры менавіта ў такі тэрмін прэзідэнт Расіі абавязаў Віктара Чарнамырдзіна наведаць Мінск і падпісаць ад імя ўрада неабходныя дакументы аб аб'яднанні грашовых сістэм.

Падчас прэс-канферэнцыі стала ясна: кідаць у паветра чэпчыкі ад радасці ранавата. Для Беларусі жыццёва неабходнае, на думку С.Шушкевіча, адзінства цэн. "Я задаволены тым, — заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета, — што мы змаглі растлумачыць кіраўніцтву Расійскай Федэрацыі, што наш падатак па Чарнобылю павышае кошт нашых тавараў і наш бюджэт цяпер утрымлівае 15 працэнтаў выдаткаў на чарнобыльскую праблему".

Карацей кажучы, пакуль што цвёрда можна сцвярджаць адно: працэс перамоў ідзе, завяршальны этап яшчэ толькі набліжаецца. І па галоўных пазіцыях — аб адзінстве цэн, аб суадносінах расійскага чырвонца і беларускага "зайчыка" — Станіслаў Шушкевіч і Станіслаў Багданкевіч выказваліся з пэўнай доляй дыпламатычнасці: "ёсць спадзяванні, што ўсё будзе добра", "мы блізкія да таго, што курс будзе 1:1".

Грамадзянам трэба больш чэсна сказаць, што працэс яшчэ ідзе і ва ўрадавых структурах Расіі ёсць розныя погляды, у тым ліку і рэзка адмоўныя, на аб'яднанне грашовых сістэм. І справа зусім не ў бітве пад Оршай у старажытныя часы, а ў звычайных эканамічных разліках.

Калі пераможа палітычны падыход, то мы атрымаем і адзінства цэн, і больш выгадны курс.

Паказальна, што Барыс Ельцын і Станіслаў Шушкевіч аднадушныя ў неабходнасці прынцыпова новага дагавора паміж Расіяй і Беларуссю, падкрэслім — дагавора суверэнных дзяржаў.

Шмат пытанняў да Станіслава Шушкевіча ўзнікла з нагоды візіту прэзідэнта ЗША Клінтана ў Мінск. Многіх хвалюе, ці паўплывае ён на эканамічныя ўзаемаадносіны, ці варта чакаць багатай амерыканскай дапамогі. Станіслаў Шушкевіч спачатку выказаў сваю перакананасць, што просьбы аб дапамозе у багатых дзяржаў — гэта зацыроўванне дзірак, гэта недастойны шлях. Ёсць адзінае выйсце — эканамічныя ўзаемаадносіны.

Нічога канкрэтнага Старшыня Вярхоўнага Савета больш сказаць не мог, бо нелагічна выкладваць свае пытанні спачатку перад журналістамі, а потым перад прэзідэнтам ЗША.

### Да ведама народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь

Трынаццатая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 18 студзеня 1994 года ў 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

*Нам стала вядома*

## "Вольныя землябробы" захапілі нацыянальны тэатр...

Але захоп быў мірны — з нагоды чарговага пятага з'езда фермераў Беларусі. Іх зараз у рэспубліцы больш 2.700, сіла ўжо немалая. Таму ў сталічным тэатры імя Я.Купалы яблыку ўпасці не было дзе.

"Вольных землябробаў" ад імя Вярхоўнага Савета павітаў Станіслаў Шушкевіч. Былі ў зале таксама старшыня аграрнай парламенцкай камісіі У.Гаркун, намеснік міністра сельскай гаспадаркі Д.Руцкі, іншыя адказныя асобы.

Праблем на з'ездзе ўзнімалася шмат, пытанняў гучала шмат, але адказаў на ўсё атрымаць не ўдалося — цяжка зараз жывецца не толькі фермерам, але й калгасам-саўгасам, заводам, фабрыкам і г.д. Таму галоўнае — надзея на сябе, сваю галаву і рукі — вось, вобразна кажучы, лейтматыў з'езда.

Раз'ехаліся беларускія фермеры са сталіцы таксама мірна — пасля добрай сяброўскай вячэры...

**Павел СТАСЕВІЧ.**

